# іскры ільіча



№ 3

1940 г.



# УКАЗ

## Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР

**Аб узнагароджанні Старшыні Совета Народных Камісараў СССР таварыша Вячэслава Міхайлавіча Молатава ордэнам Леніна.**

**За выдатныя заслугі ў справе арганізацыі большэвіцкай партыі, стварэння і ўмацавання совецкай дзяржавы ўзнагародзіць Старшыню Совета Народных Камісараў СССР таварыша Вячэслава Міхайлавіча Молатава, у дзень яго пяцідзесяцігоддзя,—ордэнам Леніна.**

*Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*

*М. Калінін.*

*Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР*

*А. Горкін.*

Масква, Крэмль, 8 сакавіка 1940 г.

## *Вячэслаў Міхайлавіч Молатаў*

9 сакавіка гэтага года споўнілася пяцьдзесят год з дня нараджэння Вячэслава Міхайлавіча Молатава.

Яшчэ ў раннім юнацтве таварыш Молатаў стаў рэволюцыянерам і ўступіў у большэвіцкую партыю. У 1909 г. ён быў арыштаван і выслан на поўнач на два годы.

У 1912 г. таварыш Молатаў удзельнічае ў стварэнні большэвіцкай газеты „Правда" і становіцца адным з яе кіраўнікоў. У гэты час ён сустракаецца з І. В. Сталіным і перапісваецца з В. І. Леніным.

Царскія жандармы ўвесь час праследвалі таварыша Молатава, неаднаразова арыштоўвалі і ссылалі яго. Але ні турмы, ні ссылкі не зламілі моцнай волі выдатнага большэвіка.

У дні Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі таварыш Молатаў—член Ваенна-Рэволюцыйнага Камітэта, які кіраваў узброеным паўстаннем у Петраградзе.

Пасля рэволюцыі таварыш Молатаў—на вялікай партыйнай і совецкай рабоце. І ўсюды, куды-б ні пасылала яго партыя, ён няўхільна змагаўся, як змагаецца і зараз, супроць усіх ворагаў народа, за комунізм.

Тав. Молатаў—старшыня Совета Народных Камісараў СССР і Народны Камісар па замежных справах.

Уся наша краіна любіць Вячэслава Міхайлавіча Молатава, вернага вучня Леніна, бліжэйшага саратніка вялікага Сталіна, аднаго з буйнейшых кіраўнікоў большэвіцкай партыі і совецкай улады.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
Сакавік 1940 г. № 3.




# Друг дзяцей

*Л. Ольхоўскі*

Упершыню ў лагер „Артэк“ (Крым) Вячэслаў Міхайлавіч прыехаў у 1934 годзе. Прыезд яго быў нечаканы. Дзеці пасля абеда адпачывалі. Але не паспеў дзяжурны па лагеру даць сігнал на пад'ём, як рэбяты ўжо былі на нагах: хтосьці іх паспеў паведаміць аб прыездзе дарагога госця.

Па алеях і дарожках ніжняга лагера дзеці беглі насустрач да Вячэслава Міхайлавіча.

Агледзеўшы ніжні і верхні лагеры, таварыш Молатаў накіраваўся ў парк. Там ён наглядаў за іграмі дзяцей на спартыўных пляцоўках. Затым ён з дзецьмі пайшоў у сталовую і разам з імі вячэраў.

Пасля вячэры ўсе сабраліся на кастровай пляцоўцы „Артэка“. Загарэўся вялікі піонерскі касцёр. Дзеці выступалі ля кастра. Яны дэманстравалі перад Вячэславам Міхайлавічам сваю творчасць. На пляцоўцы з дзіцячых фігур вырасла жывая кветка. Калі яна раскрылася, у цэнтры яе паказаліся тры маленькія дзяўчынкі. Яны трымалі ў руках вялікія букеты кветак. Вышаўшы з круга, дзяўчынкі падышлі да Вячэслава Міхайлавіча і паднеслі яму кветкі. Таварыш Молатаў расцалаваў па чарзе дзяўчынак і ўсадзіў іх побач з сабою.

Рэбяты спявалі песні, разам з імі спяваў і таварыш Молатаў. Пасля фізкультурных выступленняў артэкаўцы розных нацыянальнасцей праспявалі свае песні, выканалі танцы. Затым па просьбе дзяцей выступіў таварыш Молатаў. Ён расказваў рэбятам аб жыцці дзяцей у мінулым, параўноўваў гэтае жыццё з цяперашнім жыццём савецкай дзетвары. Рэбяты надзелі таварышу Молатаву піонерскі гальштук і назвалі яго пачотным піонерам-артэкаўцам.

Успамінаецца паездка артэкаўцаў да таварыша Молатава летам 1936 года. Вячэслаў Міхайлавіч адпачываў тады ў Крыму.

Таварыш Молатаў радасна сустрэў дзяцей і пачаў з імі знаёміцца. Імёны і прозвішчы іх ён адразу запомніў і на працягу ўсяго дня кожнага называў па імені і прозвішчу.

З намі тады прыехаў наш лагерны баяніст дзядзя Міша.

— Баяніст у лагеры—вялікая справа,—сказаў таварыш Молатаў і, падышоўшы да збянтэжанага дзядзі Мішы, прывітаўся з ім.

Таварыш Молатаў пазнаёміў сваю дачку Светлану з рэбятамі, у прыватнасці са славутай піонеркай Мамлакат Нахангавай. Светлана ёй узрадавалася і прачытала гасцям верш, прысвечаны Мамлакат. Потым выступалі артэкаўцы. Асабліва таварышу Молатаву спадабалася песня „Родина“, якую праспявалі рэбяты.

— Салаўя байкамі не кормяць,—сказаў таварыш Молатаў і павёў дзяцей у сталовую.

За абедам адбыўся маленькі кур'ёз. Хлопчык-карэец Лёша Кім замест апельсіна ўзяў лімон, паспрабаваў яго і ўскрыкнуў: „Кісла, кісла!“. Рэбяты пачалі смяяцца, таварыш Молатаў супакоіў Лёшу. Ён выціснуў лімон на шпроты і сказаў:

— Вось цяпер паспрабуй.

Пасля абеда пайшлі адпачываць. Таварыш Молатаў сказаў рэбятам: – усе мы з вамі ў водпуску, і трэба захоўваць рэжым.

Дзяцей уклалі спаць. Але, як толькі Вячэслаў Міхайлавіч адышоў, рэбяты паўскаквалі з месц і пачалі дзяліцца ўражаннямі. Пазней, калі таварыш Молатаў зноў

паявіўся ў садзе, рэбяты кінуліся па сваіх месцах. Вячэслаў Міхайлавіч убачыў гэта і, смеючыся, закрычаў: „Бачу, бачу!“

Затым дзеці разам з таварышам Молатавым доўга гулялі. Вячэслаў Міхайлавіч расказваў ім аб прыродзе асобных раслін. Калі дзеці ад'язджалі, таварыш Молатаў перадаў з імі запрашэнне артэкаўцам па дарозе з Крыма заехаць у Маскву, у Крэмль.

17 верасня 1936 года на Краснай плошчы, ля маўзалея Леніна, сабралася дзвесце прыгожа апранутых рэбят. Усе яны былі ў парадных артэкаўскіх касцюмах, а на бесказырках залатымі літарамі было напісана „Артэк“. Яны прайшлі ў Крэмль і накіраваліся ў залу пасяджэнняў Соўнаркома.

Зала была святочна ўпрыгожана. Артэкаўцы засыпалі яе кветкамі, якія яны прывезлі ў падарунак таварышу Молатаву. Малышы падышлі да сталоў, дзе для іх былі прыгатаваны горы фруктаў і ласункаў. Яны адразу ўзяліся за шакалад. Больш старэйшыя трымалі сябе чынна, урачыста.

І вось увайшоў таварыш Молатаў. Гулам прывітанняў сустрэлі яго рэбяты. Вячэслаў Міхайлавіч з усімі прывітаўся. Многіх ён ведаў па імёнах.

— А дзе Лёша Кім?—запытаў ён.

— Я тут.

— Ну як, лімон кіслы?

— Кісла, кісла,—смяяўся Кім.

Таварыш Молатаў вітаў дзяцей і сказаў, што цяпер артэкаўцам, добра адпачыўшым і акрэпшым, трэба ўзяцца за вучобу. А вучыцца яны павінны добра.

— Цяпер хто з вас раскажа, як вы жылі ў Артэку?—запытаў таварыш Молатаў.

Адбылася маленькая замінка. Таварыш Молатаў вывеў дзяцей з сарамлівасці:

— Ну, хто ў вас самы храбры?

Рэбяты хорам закрычалі:

— Баразбі!

Гэта быў стары знаёмы таварыша Молатава. Баразбі Хамгокаў падышоў да трыбуны і пачаў гаварыць. Таварыш Молатаў падрабязна распытваў, як дзеці правялі час, ці каталіся на лодках, ці ездзілі вярхом на конях, ці хадзілі ў горы... Баразбі расказаў, якія экскурсіі і паходы зрабілі артэкаўцы.

— Што-ж гэта азначае?—пытае таварыш Молатаў,—выходзіць, вы і не адпачывалі, а ўсё хадзілі ў экскурсіі?

— А гэта-ж і ёсць адпачынак, таварыш Молатаў,—сказалі дружна рэбяты.

— Ну, тады правільна.

Ажыўленая гутарка ўвесь час перарывалася смехам, жартамі. Затым артэкаўцы станцавалі „Матрошку“ пад гармонік. Выступіў скрыпач-артэкавец. Чыталі вершы. Потым усе заспявалі хорам. Падпяваў і таварыш Молатаў. Рэбяты спявалі яго любімыя песні.

Заспявалі песню пра „Артэк“:

„У „Артэка“ на насу
Прытуліўся Суук-су...“

Рэбяты прывезлі многа падарункаў таварышам Сталіну, Молатаву і членам урада. Калекцыя каменняў і раслін, сабраных актывістамі музея краязнаўства „Артэка“, была прызначана таварышу Сталіну. Рэбяты папрасілі таварыша Молатава перадаць падарунак Іосіфу Вісарыёнавічу.

— Абавязкова перадам,—абяцаў таварыш Молатаў.

Затым Вячэслаў Міхайлавіч пажадаў рэбятам шчаслівай дарогі і параіў ім правільна размеркаваць свае сілы з тым, каб іх хапіла на ўвесь вучэбны год, да наступнага адпачынку.






*Міхась Лынькоў*

Рыс. А. ВОЛКАВА

**(Урыўкі з апавядання „Ядвісін дуб“)**

Вёска Выгоды недалёка. Калі пайсці праз графскі парк, праз лес, то ў лагчыне, сярод бору, стаяць некалькі хат. Пятнаццаць, дваццаць. Вось і ўся вёска. У самы панскі лес упнуліся вясковыя агароды. Лесам і жывуць выгодаўцы. Гоняць смалу на пана, рэжуць дровы на панскіх купцоў, лыка дзяруць, абады гнуць. Па дробных лесавых рачулках гоняць бярвенні вясной, калі шуміць 'шчэ вада, шалёна размываючы выгары, зносячы абгарэлае пнеўе, буралом, размываючы ручаінамі лесавыя мурашнікі. А ўжо на баравых узгорках, па сонечных угрэвах зацвітае краска сон, скрозь леташнія верасы прабіваюцца зябкія пралескі. А птушак, птушак! Раніца халодная, зямля аж гудзе пад нагамі, хрыбусцяць ільдзінкі па калянІках, а яны пяюць, спяваюць—лесавое царства птушынае. І не разбярэш, ці то птушкі пяюць, ці то пераліваюцца, журчаць ручаі пад вузлаватымі карэннямі соснаў. Як пахне тады ў лесе густым кляновым сокам, маладой хвояй, гаркавым лістам лазовым. Ідзе Ядвіська, слухае птушак. У адной руцэ спарышы—снеданне дзеду. У другой пучок вярбы; колькі пухнацікаўбаранчыкаў на ёй, жоўтых, касматых! Дакранешся імі да твару, аж нос шчакочуць і шчацэ нібы цёпла. Вясна!

— З добрай раніцай, дзеду!

А дзед стаіць на румку, мокры аж па самыя грудзі, упіраецца багром у вялікае бервяно, скатвае яго на ваду. Натужваецца дзед, відаць, як ходзяць лапаткі пад зрэбнай сарочкай, шорстка шамацяць па пяску лапці.

— Вясна, дзеду!

— А-а... Унучка! Сядай...

Дзед глядзіць якую хвіліну на неба. Сонца ўжо ўзнялася на поўдуба, аблівае золатам горы бярвення. Дзесьці высока, высока раздаюцца ледзь чутныя гукі—курлы... курлы...

— Жураўы, дзеду!

— Ото доля сабачая...—уздыхае дзед, знімае сарочку, выкручвае яе. —Ну, ото пойдзем хіба да цяпла.

Дзед моўчкі есць, а Ядвіська пазірае, як сіпяць на агні мокрыя трэскі, як угрэтыя дзедавы калены курацца парай. Чуваць усплёскі ракі, іржаць вазацкія коні, што сцягваюць да вады бярвенні. Ля агня цёпла. Але няма калі грэцца дзеду.

— То ідзі дахаты, унучка, а мне час на работу.

Дзед устае, хапаючыся, жагнаецца на ўсход, на сонца, і, прыхінуўшыся на якую хвіліну да старой хвоі, пачэсвае аб яе спіну. Які-ж вялікі дзед, вот, вот, здаецца, пахіліцца старая хвоя і паваліцца на зямлю, на пясок, на грузкі, прыбярэжны глей.

Высокі дзед, але дужа пануры. З ім не разгаворышся. „Падай, прынясі, маці скажы, каб перабрала бульбу“,—толькі і пачуеш ад яго. Але якія казкі ён можа расказваць, калі зімой, у вольны ад працы час, забя-



рэцца дзед на дзень, другі на печ. Ён раскажа і пра сома, які спаймаў белага лебедзя, і пра старога, старога шчупака, што жыў у лесавым возеры і так сумаваў, што ўвесь аброс мохам, а возера зрабілася чорным і ніводная птаха на яго не садзіцца. Ён раскажа пра лося, пра мядзведзіху-маці, у якой адабралі ваўкі сыноў-медзвяжатак—так-жа зараўла тады мядзведзіха, што цярушыліся зоры з неба і ападалі на лясныя гушчы. І штогод, як цярушацца зоры ў небе, шукае мядзведзіха воўчага следу ў бару. То бывае восеньскімі начамі, калі бярозавы ліст усцілае воўчыя сцежкі, робіць іх нявіднымі. А пра мудрага дзятла, працавітага бабра-дрывасека, да пра шэрую чаплю, што жыве на балоце, ходзіць у госці да журавоў! Багата ў дзеда казак, так багата, як зор на небе, як красак на полі. А летам гасцінцы дзед носіць з лесу—то шапку суніц, то хітры кошык з бяросты, то поўную пазуху арэхаў, ці якую звярушку жывую—зайчанё, вавёрку або вожыка.

І вот годы са два ўжо, як дзеда не стала. Усё гэта было так нечакана для Ядвіські, і да гэтага часу яна не можа забыцца на дзеда. Вось толькі забрэшуць гэтыя панскія сабакі поначы, і ўстае перад ёю дзед, як жывы. Высокі, з рэдкай барадой, з выцвілымі вачмі. То з багром ён стаіць, то з вострай сякерай—валіць панскія дубы. То размахвае ён касой—колькі стагоў папазмётваў дзед на графскім лугу. На ўсякую працу быў здатны дзед—і ў лесе, і ў полі, і на панскім лузе. На сваёй зямлі не было чаго рабіць, тут упраўлялася сама маці. Выгадаўцы працавалі больш на пана.

---

Была ўжо восень. Першыя замаразкі ўбілі інеем астуджаную зямлю. У хаце нібы пасвятлела. Бяроза пад акном не засціла неба і скрозь яе вецце назірала Ядвіська, як ляцяць у вырай позні птушкі. Яна прыслухоўвалася да іх далёкіх галасоў, сачыла за хуткімі хмаркамі, якія абганялі і птушак, хавалі тады празрыстае восенскае сонца, узнімалі хліпучы вецер, і ён пырскаўся халодным дажджом, наганяючы цемрадзь у хату.

Надрыўна кашляў тады дзед. Ён мала хадзіў ужо, усё больш адлежваўся на печы і ўсё пытаўся ў Ядвіські: „А дзе-ж маці?“

— Дзе-ж маці? Маці пайшла ў людзі, можа прынясе якой бульбы...

Мутныя вочы былі ў дзеда. Ён нібы ўспамінаў што, нібы нешта хацеў расказаць, але толькі пытаў зноў:

— Дык пайшла, кажаш?

— Ну так, пайшла, пайшла...—адказвала нібы са злосцю Ядвіська. Ёй надакучвалі дзедавы пытанні. Дзе маці, дзе маці... Ведае-ж, не маленькі. Ні казак ад яго, нічога, адзін толькі кашаль... Але-ж шкада Ядвісьцы дзеда, дужа-ж ён хворы, пра якія тут казкі пытаць, сама ведае.

— Можа вады падаць, дзеду?—пытае яна. А той зойдзецца кашлем, нічога не чуе.

Так і не ўчулі аднаго разу за дзедавым кашлем, як моцна загрукацелі дзверы і ў хату ўвайшоў чужы чалавек. Ён не зачыніў дзверы, а, брыдка вылаяўшыся, загрымеў на ўсю хату:

— Ці доўга то я казаць вам буду?

Ядвіська азірнулася, пабялела. Польскі салдат стаяў у хаце і крычаў. Крычаў з усяе сілы. Ён быў нібы напалоханы чым, нібы перакрычаць хацеў свой страх.

— Дык зараз-жа выходзьце з хаты... На вуліцу... Такі загад пана афіцэра... Ды хутчэй... Доўга буду я тут прасіць вашай ласкі...

Дзед насілу злез з печы і, хапіўшыся за грудзі, пайшоў на вуліцу, худы, высокі, босы.

— Ты-б хоць лапці надзеў, дзеду!

— Не трэба, унучка, нічога не трэба... Відаць, карацелі прыехалі, што-ж мы будзем марудзіць з імі...

Усе выгодаўцы ўжо былі на вуліцы. Тут-жа былі салдаты, некалькі чалавек з паліцыі, нейкія цывільныя людзі ды пан Зыгмунт з панскім сабакам. То быў вялізны, увесь у плямінах, дог. Яго трымаў на ланцугу пан Зыгмунт, які хадзіў, як надзьмуты верабей.

Допыт пачалі адразу.

— Хто паліў панскае дабро летам?

Дзе-ж тут знойдзеш адказ на такое пытанне. Больш маўчалі ўсе ці адказвалі скупа:



— Мо', сам бог... Мо', паны ўланы... А мы-ж нічога не чулі і нічога не бачылі...

Дарэмна дабіваўся начальнік пачуць якое слова ад дзеда Януся. Той маўчаў зусім, сцяўшы зубы і стаяў з непакрытай галавой, худы, ссутулены. Вузлаватыя пальцы ног мясілі сцюдзёную гразь, зябка дрыжэлі дзедавы калены, ды трымцеў на вятру аўсяны колас у рэдкай дзедавай барадзе. І толькі тады, калі падступаўся да яго з кулакамі начальнік, дзед Янусь загаварыў:

— Што вы хочаце ад нас, пан начальнік! Хлеб—вялікі дар божы... Толькі нябесным агнём можна паліць яго... Можа і пакараў гаспод бог нашага пана за яго вялікую чалавечую несправядлівасць...

Аж ускіпеў тут пан начальнік.

— Я пакажу вам сапраўдную боскую справядлівасць... Я пакажу вам, як бунтаваць у нашай айчыне... Я пакажу вам боскую ласку...

Звярнуўшыся да салдат, прасіпеў каманду:

— Уціхамірыць!

Людзі стаялі і нема дзівіліся на цяжкую салдацкую працу. Дзынкалі шыбы ў вокнах, трашчэлі выбіваемыя рамы, дзверы. Аж пыл узняўся над усім сялом, калі гэтыя завішныя і ёмкія да працы людзі пачалі ламаць каміны, бурыць у хатах печы, якія і так ледзь ліпелі. Дзе-ні-дзе высыпалі на вуліцу ў гразь торбы з мукой, выкідвалі на гароды і трушчылі дзежкі, старыя гладышы, драўляныя міскі. Толькі тады, калі працавітыя салдаты пачалі бурыць страху, не сцярпеў дзед, кінуўся да іх, узняўшы ў неба худыя свае кулакі:

— Што вы робіце, дзікія вы людзі!

— Ну, ну!—грозна закрычаў надзьмуты пан Зыгмунт і кійком, што быў у руцэ яго, піхнуў дзеда Януся ў грудзі. Той не ўстояў і паваліўся ў сцюдзёную гразь, моцна выцяўшыся аб вугал зруба.

*(Канец у наступным нумары.)*



# Люцік

Зм. БЯДУЛЯ

Пайшла Юлька на лужок.
Бачыць—коціцца клубок,
Коціцца дарожкаю
І трапеча ножкамі.

Ой, клубок пішчыць, пішчыць,
Вочкамі блішчыць, блішчыць—
Цюцік малы коціцца,
Мабыць, гамаць хочацца.

Юлька цюціка ўзяла
І да хаты прынясла.
Стаў ён вельмі жвавенькі,
Бр венькі, рухавенькі.

Бо паіла малачком,
Накрывала фартушком.
Як-жа зваць ёй цюціка?—
І назвала Люцікам.

Грэйся, грэйся, цюцік мой,
Грэйся, грэйся, Люцік мой.
На табе падушачку.
Ляж ты, мая птушачка.

А-а, а-а, а-лю-лю!
А я Люціка люблю!
Песні выдумляць буду
І табе спяваць буду.

Дзень у цёмны бор пайшоў.
Яркі месяц узышоў.
Птушка не пяе цяпер,
Рыбка не плыве цяпер.

Ходзіць павай ціхі сон,
Над ім сіні парасон.
І ступаюць росамі
Ножкі яго босыя.





Трэба спаткі, трэба спаць,
Трэба ўсім адпачываць.
Спаць пара і цюціку—
Залатому Люціку.

А-а, а-а, а-лю-лю!
А я Люціка люблю!
Кашкаю карміць буду,
Малачком паіць буду.

Не цвыркуй ты, цвыркунок.
Не гудзі ты, камарок.
Дайце спаткі цюціку,
Дарагому Люціку.

Калі тут заснеш пры мне,
Будзеш бачыць ты ва сне
Курку аксамітную,
Пеўніка блакітнага.

Калі будзеш добра спаць,
Дам я заўтра патрымаць
Мішку са спрунжынаю,
З хітраю машынаю.

Станеш ключыкам круціць,
Будзе Мішка сам хадзіць.
Дам я сумку з гузікам,
Скрынку-брынку з музыкай.

Дам цукровы пісталет,
Нарысую твой партрэт—
Вось алоўкі новыя,
Рознакаляровыя!

Буду цюценьку купаць
І часаць і выціраць
Ручнікамі свежымі—
Пешчаны! дагледжаны!

Ластаўка расце ў гняздзе,
Плотачка расце ў вадзе,—
Люцік у пакоіку
Вырасце пад столікам.

Заблішчыш, як пышны шоўк,
Будзеш дужы, нібы воўк:
Грудзі гартаваныя,
Ногі сталяваныя.

І завострацца клыкі,
Як жалезныя цвікі.
Тваё вуха гнуткае
Будзе вельмі чуткае

Як панюхаеш сляды,
Дык тады няма бяды—
Знойдзеш падваротніка,
Шыбенніка-шкодніка.

І не знікне ні за што
Ад вачэй тваіх ніхто—
Лапнеш, хапнеш ворага
Самага здаровага.

А-а, а-а, а-лю-лю!
А я Люціка люблю!
Спі, мой даражэнечкі.
Ціха... спіць маленечкі...



# Жакеліна хоча новае плацце





*Апавяданне Е. Яхнінай і М. Зорына.*

Рысункі К. ГЕДДА

Маленькай Нанет споўнілася пяць год, калі ў Парыжы,—горадзе, у якім яна пражыла ўсё сваё нядоўгае жыццё,—пачалася рэвалюцыя.

Звергнуты ўрад разам з банкірамі, купцамі і знатнымі бяздзельнікамі ўцёк у прадмесце Парыжа—Версаль. А ў самым Парыжы была арганізавана першая ў свеце рабочая дзяржава, якая назвала сябе Комунай.

Так 18 сакавіка нарадзілася Парыжская Комуна. Яна праіснавала ўсяго 72 дні. Ужо ў красавіку версальцы выпусцілі першы выстрал па Парыжу, а ў маі Комуна была канчаткова разгромлена, а комунары—перабіты.

---

Бацька Нанет, Жульен Грыо, быў інвалідам, не гледзячы на тое, што яму ледзь мінула 30 год. На фабрыцы, дзе ён працаваў, машына адарвала яму левую руку да локця.

Гаспадар фабрыкі, Огюст Брыен, бязлітасна прагнаў Жульена.

— Мне інваліды не патрэбны,—сказаў ён.

— Куды-ж мне падзецца?—з адчаем сказаў Жульен.—У мяне жонка, дачка...

— Мяне мала цікавіць—куды вы падзенецеся,—груба адказаў гаспадар.—Мне вы, ва ўсякім выпадку, не патрэбны.

Не толькі Брыен так аднёсся да пакалечанага Жульена. Куды-б ён ні прыходзіў, ён усюды чуў адно і тое-ж:

— Ды ў вас толькі адна рука. Нам патрэбны рабочыя, а не калекі.

І Жульен быў вымушан прыстасаваць у сябе маленькі варштат і займацца дома дробнай сталярнай работай і пачынкай.

Жульен энергічна дапамагаў комунарам у часе баёў. Таварышы шкадавалі яго; памятаючы, што ён інвалід, не пасылалі яго ў небяспечныя месцы. Але, не гледзячы на сваё калецтва, Жульен умеў усюды быць карысным.

28 мая, калі пала апошняя барыкада і комунарам стала ясна, што няроўная барацьба скончана,—Жульен пасля цэлага тыдня адсутнасці вярнуўся хмурны дамоў.

Маці Нанет, Шарлота Грыо, кінулася насустрач мужу.

Кругом грымелі выстралы. Шыбы вокнаў сутрасаліся ад узрываў снарадаў. Праз акно відаць было, як раз-па-разу праносяць насілкі з раненымі.

— Што там адбываецца?—шапнула Шарлота, абнімаючы мужа.

Жульен быў непазнавальны. Нават Нанет гэта заўважыла. Заўсёды вясёлы бацька быў хмурны і нязвычна суровы. Твар яго закапцеў ад парахавога дыму, астатак сваёй пакалечанай рукі ў пустым рукаве ён прыціскаў да грудзей.

— Усё загінула, Лалот,—сказаў ён бязгучна.—Але тое-сёе мы ўсё-такі выратавалі,—дадаў ён, горка ўсміхнуўшыся.

Ён апусціўся на стул, расшпіліў куртку, і Нанет убачыла на грудзях бацькі ярка-чырвонае палотнішча. Дзяўчынка не магла адвесці ад яго зачараваных вачэй.

— Гэта сцяг апошняй парыжскай барыкады,—растлумачыў Жульен жонцы.—Кожную мінуту да нас могуць прыйсці з вобыскам версальцы, якія вось-вось захваццяць і наш раён. Трэба быць гатовым да ўсяго. Але куды схаваць сцяг?

— Я ведаю куды!—радасна ўскрыкнула Шарлота.—Ідзём хутчэй, хутчэй!

Шарлота павяла мужа ва двор, дзе вырастала з кожным днём усё вышэй і вышэй куча стружак, якая заставалася штодзённа пасля работы Жульена.

Вось сюды, у гэтую кучу, і вырашылі схаваць муж і жонка Грыо каштоўны сцяг.

Толькі, калі ён быў пахаваны ў пахнуўшых свежым дрэвам стружках, Шарлота ўспомніла, што не толькі сцягу, але і Жульену пагражае небяспека.

Гэтам у дзверы пастукалі.



Жульен і Шарлота пераглянуліся.

Так і ёсць! Гэта прышлі версальцы з вобыскам.

Малады версальскі афіцэр, у бліскучай форме, на мінуту прыцягнуў увагу Нанет, але калі яна пачула прыемны нізкі голас маці: „Нанет, ідзі да сваёй лялькі",—яна з ахвотай пабегла. Яе Жакеліна—лялька, пашытая з кавалачкаў матэрыі, чакала яе.

Памяшканне Жульена—адзін маленькі пакоік, які адначасова служыў і кухняй, і сталовай, і спальняй, і майстэрняй, быў такі малы, што афіцэр адразу ўбачыў, што ім тут няма чаго было шукаць.

— Гэй, ты, бязрукі!—звярнуўся афіцэр да Жульена,—пакажы двор...

Жульен пакорліва вышаў разам з салдатамі.

Куча стружак ва дварэ адразу прыцягнула ўвагу аднаго з салдат. Ён падазрона агледзеў яе і сказаў:

— Паглядзі... Нам начальнік не дарма казаў аб схаваных комунарах. Бачыш, стружкі памятыя, па кучы нехта хадзіў... Разумееш?

— Не, не разумею,—буркнуў у адказ другі. Яму было горача.

— Давай, гаспадар, лапату!—крыкнуў адзін з салдат.

Ні слова не кажучы, Жульен падаў лапату.

Бледны, як мярцвяк, стаяў Жульен і глядзеў, як побач утваралася новая гара стружак. Але сцягу не было відаць.

„Дзе-ж сцяг?! Куды ён падзеўся?"—думае Жульен.

— Нічога тут няма,—прамармытаў са злосцю салдат.—На, забірай сваю лапату. Каб цябе чэрці пабралі разам з тваёй кучай.

Жульен быў страшэнна ўсхваляваны. Знікненне сцягу напалохала яго, бадай, больш, чым калі-б яго знайшлі.

Нічога не разумеючы, Шарлота пераводзіла погляд з мужа на салдат.

— Ну, калі нічога няма, то і не трэба. Тут, відаць, усё ў парадку. Добра і тое, што тут, як у іншых

дамах, малыя не пішчаць і не выюць. Магу пахваліць цябе, жанчына, за тое, што твая дзяўчынка не раве і не блытаецца пад нагамі.

Шарлота міжвольна паглядзела на дачку. Да гэтага часу яна ўнікала глядзець на яе, каб не дрогнуць, не расстроіцца.

Але што здарылася з гэтай спакойнай, мужнай жанчынай? Цяпер, калі здавалася, небяспека мінавала, Жульен убачыў, што вочы яе зрабіліся цмянымі, ногі падкасіліся, губы пабляднелі і запякліся, а рукі сударгава схваціліся за стул.

Стоячы ў дзвярах, афіцэр крыкнуў:

— Аднак, не думайце, што калі вы аказаліся невінаватымі сёння, то гэта дапаможа вам заўтра.

Дзверы захлопнуліся.

Толькі цяпер Жульен заўважыў, куды накіраваны погляды яго жонкі.

Ён убачыў, што яна, як зачараваная, глядзіць у кут. Там сядзела Нанет.

Яна сядзела ў кутку на кортачках супроць сваёй лялькі Жакеліны.



У адной руцэ Нанет трымала вялікія нажніцы маці, у другой быў вялікі ярка-чырвоны ласкут. На ім можна было прачытаць баявы лозунг комунараў:

— Комуна або смерць!..

Жульен кінуўся да дачкі і сваёй адзінай рукой вырваў нажніцы ў яе з рук. Ад нялоўкага руху Жульена Жакеліна звалілася носам проста на падлогу. Нанет заплакала.



Шарлота кінулася да дачкі.

Яна схваціла яе і пачала трэсці за плечы.

— Брыдкая, брыдкая дзяўчынка, адкуль ты ўзяла гэтую матэрыю?

Жульен спыніў жонку. Упершыню за гэтыя дні ён усміхаўся.

— Лалот, дарагая! Нанет і не падазравае, ды і ты разам з ёй, якую вялікую паслугу яна аказала. Каб не яна, загінуў-бы сцяг апошняй парыжскай барыкады.

Шарлота таксама бурна пачала цалаваць дзяўчынку.

— Усё-такі скажы, Нанет, як папаў да цябе сцяг?

Нанет падняла мокры ад слёз твар.

— Аддай мне гэтую прыгожую матэрыю. Я бачыла як папа прынёс яе і як вы закапалі ў стружкі... Я пайшла ва двор, раскапала кучу, а матэрыю ўзяла сабе. Жакеліне так хочацца мець новае чырвонае плацце!..



# ШТО РАБІЦЬ ЯМУ?

*Эдзі Агняцвет*

На сівым узгорку—
Танька, Слава, Борка.
Мяккі ўецца снег,
Хуткі санак бег.

— Вунь, глядзіце ў Санькі
Новенкія санкі.
Просіць Ермалай:
— Саня, пакатай.

Саня хмурыць бровы
І крычыць суровы:
— Я табе не дам,
Я гуляю сам!

— Не хачу нікога,
Уцякай з дарогі!
Кажа Ермалай:
— Добра, пачакай.

Ён з дзяўчынкай Гапкай
Лепяць разам бабку.
Бабка, як гара,
Стала ля двара.

Бабцы даць кіёчак
Надта Гапка хоча.
Глянула на шлях—
Саня на санях,—

Два кійкі трымае,
Важна пазірае:

— Не аддасць кійка
Левая рука!

— Як з рукою правай?—
Запытаўся Слава.
— Не аддасць кійка
Правая рука!

Слава раззлаваўся:
— Скуль такі ўзяўся?
Не таварыш нам?
Хай гуляе сам!

На каньках, на санках—
Борка, Слава, Танька,
Па гары ляцяць,
Галасы звіняць.

Для бабулі снежнай
Дом будуюць з вежай.
Смех вакол і шум.
Толькі Сані—сум.

З новымі санямі
І з двума кіямі
Ён стаіць адзін
Ля сівых калін.

А хто-ж вінаваты
Што ўцяклі рэбяты?
Дрэнна аднаму.
Што-ж рабіць яму?

*Мікола Цэлеш*

*Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА*




## Хітры заяц

Іду я з стрэльбай па полю. Слядоў зайцаў няма, сабакі са мной таксама няма, і я выбіраю лагчынкі, хмызнячкі, лужкі, дзе больш за ўсё зайцы ўвосень ляжаць.

Гляджу—крокаў на пятнаццаць ад мяне ляжыць пад купінкай шэры клубочак. «Няўжо заяц?» Падыходжу і бачу—чорны гузічак на шэрым. Вочка, значыць. Глядзіць на мяне заяц і думае мусіць: «А вось ты не ўбачыш мяне? А вось пройдзеш міма?»

Знімаю я стрэльбу з плечаў, цэлюся зайцу па хрыбту. І ўспомніў: аднаго разу я вось таксама страляў па ляжачаму зайцу і не папаў. Толькі шэрсці надраў шротам. Думаю: «І цяпер тое самае будзе, бо заяц глыбока ляжыць у ямачцы, а відаць у яго толькі шэрсць. Трэба бліжэй падыйсці». Падыходжу. Заяц, як ляжаў, так і ляжыць: хоць-бы вокам міргнуў! І глядзіць на мяне,—заяц калі і спіць, то глядзіць. Яшчэ іду—ляжыць. Ці не дохлы толькі ён? Сапраўды—дохлы. Хіба можа так блізка падпускаць да сябе заяц? Аглянуўся я навокал. «От думаю, добра, што ніхто не бачыў, як я дохлага зайца страляў. Было-б смеху».

Падыходжу зусім блізка да зайца, а ён ляжыць, як і раней. І зноў думкі: «Так, дохлы касавокі! Мусіць ужо зусім засмярдзеўся? За што яго ўзяць, каб паглядзець і рукі не запэцкаць? За вушкі трэба ўзяць».

Стрэльбу трымаю я на левай руцэ, сціснуўшы яе пад пахай, і нагінаюся, каб узяць, а заяц—як дасць мне ўсім сваім целам у нос! Адскочыў я ад нечаканасці, хапіўся за курок стрэльбы, прыклаўся... куды там? Ужо далёка ўцёк хітры шарак.



## II

## Воўчая смерць

Колькі я хадзіў па палях і лясах, ніколі не бачыў хворага ваўка. Думаю: «Як ваўкі паміраюць? Ад хвароб з імі гэта здараецца ці ад старасці?»

Але аднаго разу ўбачыў.

Іду гэта я з Чурніцы ў Гумнішча. Дарога ў аб'езд пайшла. Дай, думаю, прайду нацянькі, так куды бліжэй будзе. Пайшоў паміж елачак. Справа так пад вечар была. У руках у мяне адбой; я лес хадзіў кляйміць. Махаю я адбоем і іду. Раптам, бачу нібы нешта шэрае варухнулася за елкай. А там жывёльныя могілкі былі, выкідалі туды здохлую скаціну. «Сабака»,—думаю і іду сабе далей.

Гляджу—воўк. А каб цябе! Спачатку ў мяне з'явілася жаданне крыкнуць з усёй сілы, каб напалохаць звера, але потым думаю: дай палюбуюся зладзюгай.

Стаў я за елачкай. У руках трымаю адбой. Думаю, калі вось стукнуць яму—каюк. Воўк паказваецца з-за елачкі. А мамачкі, які ён худы! Адна скура ды косці. Нават і скуры не відаць. Згорбіўся. Аблез. І бачу—нага адна кульгавая: перабіта ніжэй сустава і крыва зраслася. Ходзіць воўк, тыркаецца мордай у вымытыя непагодай конскія косці і дрыжыць. Аж шкада мне яго стала. «Вось, думаю, дажыўся, ледзь ногі цягае».

А воўк усё нюхае і нюхае косткі, думае: «Хоць-бы чаго-небудзь на першы выпадак». І ўсё бліжэй і бліжэй да мяне. А я стаю і адбой трымаю. Стукнуць—і каюк. Воўк зусім ужо блізка: ударыць ці не? Такога заўсёды паспею. Не ўцячэ. Раптам воўк, усё нюхаючы, тыркнуўся носам у бот. Тыркнуўся і—абамлеў. Такім знаёмым і страшэнным паказаўся яму пах майго бота. «Быў, мусіць, у перапалцы». Абамлеў, нагамі дрыгае, хоча падняцца і ўцякаць, і сілы ў яго нехапае. Стогне. Хоць вазьмі ды падымі яго ды скажы:

— Ну, браце, набраўся страху. Дык давай пудлу хутчэй.

Але, дзе там. Каб і падняць, дык ён-бы не змог уцякаць. Хутка ў яго хлынула з роту кроў і ён акалеў.

Дык вось якая воўчая смерць. Век працягаўся, а як прышоў час паміраць, то прышлося ісці да сваіх ворагаў.



## III.

## „Лось"

Даўно гэта было. Ганяюць сабакі лося. Ганяюць, аж лес дрыжыць. Бяруць, бяруць—вось-вось, здаецца, абложаць.

Стаю я на вузенькай візірцы,—лінейцы, значыць,—а сэрца: тук-тук! тук-тук!—ходырам ходзіць. Ніяк не магу супакоіцца. «Эх, каб, думаю, на мяне выскачыў. От была-б здабыча».

Зірк: стаіць лось на візірцы. Прыбег і стаіць, закрыўшыся веткамі дрэў, галава і толькі відаць: шараваты такі, ледзь-ледзь з прымессю чырвані. «Эээ, вось які ты прыгажун!» Узняў я стрэльбу, улавіў мушку і стаю, любуюся зверам, сам сабе дамалёўваю яго дэталі: там, думаю, галава, крыху ніжэй—хрыбет, а правей уся постаць. Калі ўзяць маласць ніжэй таго лістка, дык куля якраз у сэрца трапіць.

А прыгажун стаіць і не здагадваецца, што яму пагражае. Толькі слухае шумы лясныя.

Не прамахнуцца-б! Такія рогі будуць на ўпрыгожанне пакою! І толькі гэта я хацеў націснуць на курок, як—ці то лося авадзень укусіў, ці то стаяць яму пад прыцэлам надакучыла—вылазіць з-за лісця яго галава. Цьфу, чорт! Аж усё ўнутры ў мяне пахаладзела: гэта-ж карова. І так мне стала непрыемна і неяк млосна і сорамна, што я вышаў на дарогу і пайшоў, нічога нікому не сказаўшы, да хаты.

Яшчэ адзін момант... і вось быў-бы лось!



# МАСКВА



Масква ў XIV в. (З карціны А. М. Васнецова.)



Масква ў XV в. (З карціны А. Васнецова.)



Вадаразбор ля Сухаравай вежы (З карціны Васнецова.)

За годы сталінскіх пяцігодак у Маскве выраслі прамысловыя гіганты—гордасць усяго савецкага народа: аўтамабільны завод імені Сталіна, электракамбінат імені Куйбышэва, шарыкападшыпнікавы завод імені Л. М. Кагановіча і многа другіх.

Больш трох тысяч будынкаў пабудаваны ў Маскве з дня рэвалюцыі. Пракладзен лепшы ў свеце метрапалітэн (падземная чыгунка) з станцыямі-палацамі, якія выкладзены цудоўным мрамарам усіх колераў.

У Маскве закладзен фундамент буйнейшага будынку ў свеце—Дварца Саветаў, які будзе цудоўным помнікам Уладзіміру Ільічу Леніну.

Створаны новыя плошчы, паркі, стадыёны. Адных толькі пачатковых, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ у Маскве звыш 600.

Масква моцна звязана з усёй савецкай краінай. Ад Масквы ва ўсе бакі Саюза ідуць адзінаццаць праменняў чыгуначных шляхоў, мноства шасейных дарог. Штодня з Масквы накіроўваюцца 40—60 пасажырска-паштовых самалётаў у Саюзныя рэспублікі.

Новым вялікім каналам (даўжыня 127 кілометраў) Масква-рака, на берагах якой знаходзіцца сталіца, злучана з ракой Волгай. Створаны большэвікамі за пяць год канал Масква-Волга з'яўляецца цудам тэхнікі, адным з самых вялікіх у свеце каналаў.

У Маскве знаходзіцца Музей В. І. Леніна, Музей Рэволюцыі, Трэцьякоўская галерэя і другія каштоўныя помнікі мастацтва.

Масква – сусветны горад. Праз некалькі год яна стане самым прыгажэйшым і велічным горадам у свеце.

Масква — Чырвоная сталіца СССР — з'яўляецца гордасцю ўсяго совецкага народа.

У Маскве працаваў Владзімір Ільіч Ленін. На Краснай плошчы ў цэнтры Масквы, ля Крэмля, знаходзіцца маўзалей, дзе пахаван Ленін.

У Маскоўскім Крэмлі жыве і працуе правадыр народаў Іосіф Вісарыёнавіч Сталін.

Масква—не толькі сталіца нашай радзімы. Масква—гэта надзея і апора ўсіх працоўных, яна асвятляе шлях барацьбы за комунізм.

Масква, як маяк, узвышаецца над усім светам. Горад Масква мае вялікую гісторыю.

* * *

Упершыню ўпамінаецца аб ёй у гістарычных дакументах 1147 г. Масква была тады маленькім пасёлкам і займала толькі частку плошчы сучаснага Крэмля. Для абароны ад ворагаў гэты пасёлак быў абнесен вялікім рвом і моцнай драўлянай сцяной.

Пасёлак стаяў на скрыжаванні некалькіх рачных шляхоў, па якіх праязджалі купцы з сваімі таварамі. Масква хутка расла. Ужо ў першай палове XIV века яна вышла далёка за сцены Крэмля. Але ўсе будынкі за Крэмлём



Таварыш Сталін аглядае Яхромскую насосную станцыю на канале Масква-Волга.



Яхрома. Шлюз № 3. Шлюзаванне цеплаходаў. Справа насосная станцыя.



Гасцініца „Масква" ўначы.

былі драўлянымі, а таму былі вельмі частыя спусташальныя пажары. У 1367 г. пасля вялікага пажару Крэмль быў абнесен новай сцяной, складзенай з белага камня. З гэтага часу і пачалі называць Маскву „белакаменнай“.

Самымі заможнымі былі ў той час князі і баяры, якія ўладалі цэлымі вёскамі. Князі і баяры жылі ў Крэмлі. Большасць-жа насельніцтва складалі рамеснікі. Яны жылі асобнымі вуліцамі за сценамі Крэмля.

У пачатку 20-х гадоў XVIII века многія з багатых купцоў пабудавалі ў Маскве фабрыкі і заводы. Расло і багацела маскоўскае купецтва, шумна весялілася дваранская сталіца. У гэты-ж самы час гарадская бедната вымірала ад недаядання, бруду, галечы і хвароб.

К XX веку Масква стала ўжо буйным прамысловым цэнтрам краіны. Разам з гэтым рос і рабочы клас.

У барацьбе за перамогу Кастрычніцкай рэволюцыі рабочыя Масквы заўсёды былі ў перадавых радах пролетарскага руху.

2 лістапада 1917 г. Крэмль быў узят рэволюцыйнымі войскамі. Падняты над Крэмлём чырвоны сцяг пролетарскай рэволюцыі азначаў вялікую гістарычную перамену. Масква памешчыцкая і буржуазная стала Масквой пролетарскай. Масква стала сталіцай першай у свеце пролетарскай дзяржавы, сталіцай сусветнага пролетарыята.

Старая, дарэволюцыйная Масква была вялікай вёскай. Былі ў ёй крывыя завулкі, пыльныя вуліцы, драўляныя аднапавярховыя будынкі радам з панскімі асабнякамі і мноствам цэркваў.

Сучасная, совецкая Масква становіцца прыгажэйшым горадам свету.




Станцыя метро „Сакольнікі“.



Станцыя метро „Красныя вароты“ (Эскалатар)






Рыс. 1.

Рыс. 2.



## „КІНОКАРЦІНА“

Рэбяты, на рысунках 1 і 2 вы бачыце Чарлі Чапліна і дзяўчынку.

Калі вы жадаеце, каб яны пачалі рухацца, зрабіце наступнае. Пераніміце на палоску паперы шырынёю ў 10 сантыметраў і даўжынёю ў 30 сантыметраў дзяўчынку, як паказана на рысунку 3. Сагніце палоску папалам так, каб атрымалася дзве старонкі. Першую старонку накруціце на аловак, але не туга.



Рыс. 3.

Рухаючы аловак хутка справа налева і назад, вы атрымаеце маленькую кінокарціну, атрымаеце, як кажуць, кадр з кіно.

Тое-ж самае зрабіце з Чарлі Чаплінам.

*Склала Е. ЭЛІС.*

---

## ЖАРТ

— Мама! наша настаўніца гаворыць няпраўду.

— Як? Чаму?

— А так. Учора казала, што сем і два, дык разам дзевяць, а сёння—чатыры ды пяць—таксама дзевяць. Нічога не разумею.

*Прыслаў Міхась Гарбачэўскі.*

г. Рэчыца.

Рэдактар А. БЯРОЗКІН Афармленне М. СВЯЦКАГА Адрас рэдакцыі: МІНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Мінск. 26.000 экз. Зак. № 2163. $2^1/_2$ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № 203.

Цана 30 кап.

# ВЕСНАВЫЯ ПРЫГОДЫ КАТА-ВАСЬКІ

Рысункі МАЛЕВІЧА.

Словы М. ІЛЬІНСКАГА.



1. Правучыць каточка Васю,
Каб пацешыцца з ката,
Мы паселім у шпакоўню
Спружыновага шпака.



2. Кот на дрэве вокамгненна;
Кот курняуча: „Шпак мой любы!"
Кот падкраўся да шпакоўні,
Кот аблізывае губы



3. Увабраўшы птушку ў рот,
Сашчапіўшы моцна зубы,
Расцягнуў спружыну кот
Ўсім на смех—сабе на згубу.



4. Як улепіць тут спружынка
Проста ў лоб кату – „а-ей!.."
Неба здалася ў аўчынку,
Зоркі сыплюцца з вачэй



5. Паляцеў далоў са дрэва;
Ды на васькаву бяду
Пад трубой вядро стаяла,—
Боўтнуў Васька ў ваду.



6. І збянтэжаны і мокры
Пазіраў на тое „ліха",
Што па лобе гэтак дала
Ды ляжыць спакойна, ціха.